Год выдавецтва 11. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 3 разы ў месяц).

№ 2 (8) | 10 СТУДЗЕНЯ. | 1928 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 месяц: 90 гр. на 3 месяца: 2 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр, за рад. пэтыта.

## Пасьля З'езду.

Адбыўшыся у Вільні 28-га мінулага месяца зьезд, скліканы Беларускім Цэнтральным Аб'ядналым Выбарным Камітэтам Блёку Нацыанальных Меншасьцяў, як мы ўжо адзначылі ў папярэднім нумары „Правасл. Беларусі", прайшоў у надзвычай дружнай працы і дружным настроі. З'ехаўшыяся прадстаўнікі пераважна сялянскага грамадзянства ў ліку каля 150 асоб перадусім паказалі надта добра выражаную палітычную сьпеласьць. Усе добра разбіраліся ў палітычных кірунках і чужых, і сваіх партыяў і добра разумелі механіку перадвыбарнай працы. Гэта ўсё надта скараціла працу з'езду, бо не вымагала падрабязовых выясьненьняў і тлумачэньняў.

Падводзячы, як гаворыцца „ітогі" з'езду, мы павінны ў яго працы адзначыць, як найбольш яскравыя вызы яго пасьпеху, дзьве справы, цесна зьвязаныя паміж сабой: першае—яснае і бязспрэчнае прыняцьце з'ездам самай **ідэі блёку** нацыянальных меншасьцяў, і другая—прыняцьце адзінай палітычнай **плятформы** для ўсех увахолзячых у блёк бела-

рускіх партыяў.

Пытаньне аб блёку нават ня патрэбавала ніякай дыскусыі. Калі былі галасы з мейсцаў, дык толькі аб адным: трэба каб усе Беларусы бяз розніцы партыяў, аставіўшы ўсе свае спрэчкі і сваркі, якія так абрыдлі на вёсцы, ішлі адзіным фронтам на выбары. Ня раз у гэтых прамовах чуўся жаль, што далёка ня ўсе зразумелі гэта, ня хочуць нават зразумець, што калі і наогул для Беларусаў за вялікая роскаш у часы выбараў дзяліцца на воражыя группы „па сацыяльным прызнакам“, якіх узапраўды, можна сказаць, і няма, бо сярод нас няма вялікіх паноў,—то у перадвыбарнай барацьбе гэта ўжо ня роскаш, а простая здрада нацыянальнай ідэі.

Папярэдняя наша палітычнае жыцьцё, а пераважна спатканьне на парлямантарным грунце з польскай лявіцай, ясна паказала нам, што ў Польшчы барацьба яшчэ ня выйшла з фазы нацыянальнай. Сучасны мамэнт у гэтым сэнсе нават з'яўляецца перад усім найважнейшым, бо сучаснаму ўраду, прыняўшаму клічку ўраду „санацыі“, — гэта ёсьць „аздараўленьня“,— больш за ўсё патрэбна перад усей Эўропай паказаць, што ў Польшчы быццам меншасьцёвага пытаньна зусім няма, што ў гэтым пытаньні—усё ў парадку, што меншасьці зусім задаволены сваім палажэньнем, што тут калі і змагаецца хто за свае правы з урадам, дык гэта толькі розныя «камуністы» да «грамадзісты», што з іх пункту гледжаньня адно і тое самае.

Вось за што ў сучасны момант і патрэбна перад усім падняць у гэтай барацьбе свой **нацыянальны** штандар, каб выразна адзначыць, што мы ня толькі ня маем задаваленьня ў нашых нацыанальных патрэбах і правох, але нават адчуваем пагвалчэньне гэтых правоў, па меры ўзросту нашае нацыанальнае сьведомасьці, яшчэ з большай сілай.

У сувязі з гэтым зусім лёгка, без дыскусыі прайшла і агульная аб'яднаная плятформа выбарнага блёку. „У нас няма беларускай правіцы“, як калісьці пісалі мы. Дзеля гэтага ня трудна было пагадзіць паміж сабой тры партыйныя праграмы і групу безпартыйных увайшоўшых у блёк. Нязначныя разнасьці ў паглядах гэтых партыяў уступілі мейсца больш моцнай ідэі нацыянальнага адраджэньня і здароваму нацыанальнаму народнаму пачуцьцю.

Гэтыя абедзьве справы ясна паказалі нам тое, на сколькі за гэтыя часы ад астатніх выбараў вырасла нацыанальная сьвядамасьць беларускіх масаў, а гэта, ў свой чарод, дае нам пэўнасьць, што блёк нацыянальных меншасьцяў прыцягне ў гэтых выбарах найбольшыя масы беларускага грамадзянства.

Як ілюстрацыю да гэтага, мімаволі хочацца прывясьці нейкія данныя з выбараў 1922 года.

Усіх галасоў падана ў гэтым годзе на ўсю Польшчу 8,830,231; з гэтай лічбы блёк нацыянальных меншасьцяў падаў 1 397.538, г. ё. блізка **каля паўтара мільёна**. У параўнаньні з іншымі групамі ува ўсей Польшчы блёк заняў у гэтым сэнсе **другое мейсца** (першае мейсца заняла 8-ка).

Адны гэтыя лічбы ясна гавораць аб тым, **якую выбарную моц прадставляе сабой блёк**! Яшче большую моц ён мог бы мець, калі-б тады большасьць Беларусаў не аддала сваіх галасоў за „Вызваленьне“, "ППС" і іншыя польскія партыі. У Сьвянцянскім, напрыклад вокрузе, гдзе большасьць беларускіх галасоў аддадзена была за „Выз-

валеньне“ лічба гэтых галасоў разам з галасамі „Блёку“ складае каля 80 проц.! Прыймаючы гэта пад увагу, ды яшчэ тое, якія ўплывы на народ сярод Беларусоў-каталікоў мела тады каталіцка-польская эндэцыя, цяпер пры дружнай працы ўсіх беларускіх групаў мы маглі б узяць на блёк па Сьвянцяншчыне **усе 6 мандатаў**!

Тое самае можна сказаць аб Палесьсі гдзе таксама беларускія вызваленчэскія галасы разам з блёкавымі далі 80 прац. і амаль што ня тое самае — аб Наваградчыне, гдзе гэты процант мала меней (75 прац.).

З гэтага відаць як трэба бяз усталі працаваць і працаваць пашыраючы сярод беларускіх масаў гэтую адзіную правідловую перадвыбарную думку: 1) неабходнасьць злучэньня ў адзіны перадвыбарны беларускі фронт і 2) тэхнічная неабходнасьць блёку нацыянальных меншасьцяў.

**В. Васілевіч.**

## Рэзалюцыі Зьезду выбаршчыкаў
(прынятыя 28 сьнежаня 1927 г.).

### Рэзалюцыя I.

Зьезд скліканы Бел. Ц. Аб. Выб. Кам. прымае да ведама даклад аб працы першага Беларускага парлямантскага прадстаўніцтва — Белар. Пасольскага Клюбу і выражае падзяку ўсім Беларускім паслом, якія вялі змаганьне за правы і інтарэсы Беларускага Народу.

### Рэзалюцыя II.

Дзеля таго, што як польскі выбарны закон, так і агульнае палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польскай Дзяржаве прымушае нас, Беларусаў шукаць на выбары супольнага фронту з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, зьезд Белар. Аб'ядн. Выбарн. Камітэту 28-га сьнежня 1927 г. пастанаўляе:

Заклікаць усё Беларускае грамадзянства і ўсе неўгадовыя партыі аб'яднацца каля Белар. Цэнтр. Аб'ядн. Выб. Кам. і ісьці на выбары ў Сойм і Сэнат адным супольным сьпіскам Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

### Рэзалюцыя III.

Уважаючы, што настаў ужо час калі і Беларуская жанчына павінна прыняць чынны ўдзел у змаганьні за правы Беларускага Народу і бачучы, што сярод жанчын Беларусак, ужо паўстала думка аб такой працы, што даказвае хоць-бы зьезд жанчын Беларусак Валожынскага павету, зьезд Белар. Аб'ядн. Выб. Камітэту заклікае ўсіх жанчын Беларусак споўніць свой грамадзкі абавязак — падтрымаць працу Белар. Аб'ядн. Выбар. Камітэту і галасаваць за кандыдатаў выстаўленых гэтым Камітэтам. Са свайго-ж боку Камітэт пастараецца, каб у будучы польскі парлямант увайшлі так-жа прадстаўніцы ад Беларускіх жанчын.

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Беларускі Пасольскі Клюб
## і яго праца ў Сойме і Сэнаце ў 1922—1927 г.*)

Я чую сябе дужа шчасьлівым тым, што маю гонар у сягоньняшній дзень стаць перад Вамі, браты Беларусы, як *першы беларускі сэнатар*, у сэнаце Польскай Рэспублікі і даць справаздачу аб той працы, якую мы нясьлі ў працягу гэтых пяцёх гадоў.

**Выбары**, ў першы Польскі Сойм і Сэнат засталі нас беларусоў зусім не падгатаванымі. Хто хоць троху памятуе тыя часы, добра ведае, што, калі цяпер няма нават вёскі, гдзе-б ня было хоць аднэй беларускай газэты, тады да рэдкай вёскі яна даходзіла. На сколькі мы тады былі не арганізаваны і ня падгатаваны да выбарнай працы, відаць і з таго, што нават ня нам належыць і пачын у гэтай працы, а расейцу Сярэбрэнікаву. І тут я ізноў з задаваленьнем мушу прызнацца, што мне аднаму з першых прыйшла ў галаву думка аб блёку. Калі ён Сярэбрэнікаў прыехаў да Вільні каб парадзіца са мной аб справе выбараў, я першы падтрымаў яго думку аб блёку паміж славянскімі меншасьцямі, і павёў яго да Віленскіх беларускіх дзеячоў (да А. Луцкевіча), а потым, прачытаўшы „ардынацыю выборчую“, падаў думку разшырыць гэты блёк і на ўсе меншасьці.

Думка аказалася якраз удачнай. Замест 4—5 паслоў, на якіх маглі-б разлічываць беларусы, калі-б пайшлі самі сабой, — дзякуючы „Блёку“, мы правялі ў Сойм 11 паслоў і ў Сэнат 3.

Гэта была наша першая ўдача. Аднака мы не зложылі на гэтым рукі. Мы ведалі, што ў соймовай працы галоўнае — арганізацыя. Дзеля гэтага адразу пасьля выбараў, з'ехаўшыся яшчэ тут, у Вільні, стварылі „*Беларускі Пасольскі Клюб*“, падпісаўшы супольную плятформу.

Што сказаць **аб ас'бовым складзе нашага клюбу?** Няма дзіўнага ў тым, што ня ўвесь яго склад быў аднолькава ўдачны, аднолькава здольны да парлямэнтарнай працы, бо на выбарах у дужа лічных выпадках прыходзілася рабіць, як гаворыцца, „у сьляпую“. Мы тады сусім ня ведалі адзін другога, ня ведалі, каго выбіраць; і іншыя з нас у першы раз толькі і спаткаліся пры перадвыбарнай працы. Пры гэтакіх варунках ня мог быць удачным увесь склад клюбу. Нічога дзіўнага што некалькі паслоў (дзякуй Богу нямнога) адстала ад працы і прымушана было выйсьці з Клюбу, але большасьць, трэба гэта адзначыць, вяла яе шчыра і нават афярна, ня шкадуючы, ні сваіх сілаў, ні нават свайго жыцьця. Прысутны тут на салі адзін з гэтых працаўнікоў Белар. Пас. Клюбу,—Сяргей Баран, ёсьць жывым сьведкам гэтай афярнасьці, бо яму прыйшлося замест працы ў Сойме, ў працягу 4 гадоў з пяцёх праседзець у турме *); іншым прыйшлося бегчы з межаў Польшчы.

**Адносіны да другіх соймавых партыяў** зложыліся ў Клюбе такія. Ведама, што ідучы ў Сойм мы ня маглі разлічываць і не разлічывалі на падтрыманьне нашага Клюбу польскай *правіцай*, бо ў самых нашых праграмах былі такія разбежнасьці, якія не давалі нам нават і думкі аб якой небудзь згодзе ў нашай працы. Больш за ўсё мы маглі спадзявацца на нацыянальныя меншасьці. І трэба адзначыць, што справа зьбліжэньня з нацыянальнымі меньшасьцямі, пачатая ствараньнем „Блёку“, ня ашукала нас і ў Соймавай працы. Бліжэй за ўсё да нас былі і па праграме, і па свайму становішчу ў Польшчы, і па палітычнаму настрою *украінцы*. Мушу ствердзіць, што ўсе пяць гадоў *з украінскім клюбам мы працавалі ў самым цесным кантакце* і за ўвесь гэты час ня было ні воднага выпадку, каб мы галасавалі ня разам, ці каб мы ня дасталі ад іх падтрыманьня ў якой небудзь справе.

*) Пры гэтых словах сябры з'езду зрабілі авацыю прысутнаму тут б. паслу С. Барану.

*) Гэта стацьця есьць скарочаны даклад сэн. В. В. Багдановіча, зроблены ім на з'езде, скліканым Беларускім Аб'яднаным Выбарным Камітэтам Блеку Нацыянальных меньшасьцяў 28-га мінулага сьнежня.

У блізкіх стасунках і ў досыць цесным кантакце ішла наша *праца і з клюбамі іншых меншасьцяў*. Хоць наш перадвыбарны блёк з імі быў чыста тэхнічны, і мы нічым не абавязываліся што да соймавай працы, але трэба адзначыць, што супольнасьць інтэрэсаў і аднолькавасьць палажэньня ў Польшчы ў большасьці выпадкаў нас зблiжывала. Агульную працу мы вялі заўсёды разам і ў кантакце, і толькі дужа рэдка ў прыватных і дробных выпадках галасавалі ня ўмясьцёх.

Ня тое мы павінны сказаць аб *польскай лявіцы*. А ад яе, гледзячы на яе пісаныя праграмы, мы мелі-б права чакаць чагосьці для сябе добрага. Мы добра памятуем як тут на „нашых крэсах“ распіналася за нас „*Вызваленьне*“, стараючыся пераканаць беларусоў у тым, што яму так сама дарагі нашыя інтэрэсы, як і інтэрэсы палякаў. І тады нашы беларускія дзеячы папярэджывалі нашых грамадзян, каб сцярагліся вызваленцаў. Была нават выпушчана кніжка: „Што такое „Wyzwolenie“. Але ўзяліся мы за гэтую працу крыху позна, і, дзякуючы гэтаму, многа і дужа многа беларускіх галасоў уцякло на карысьць „Вызваленьня“ і „P.P.S.“ Як і чакалі мы, у соймавай працы нацыянальнае пытаньне ў іх перамагло пытаньне сацыяльнае. У сацыяльных пытаньнях мы яшчэ іншы раз знаходзілі супольны грунт, але да тых мест, пакуль ня закранываліся нацыянальныя польскія інтэрэсы. А як толькі ішло аб гэтым, усе сацыяльныя пытаньні ішлі на смарку. Так напрылад у вядомым зямельным пытаньні „Вызваленьне“ галасавала за крэдыт у 50.000.000 п. м. на польскае асадніцтва на нашых беларускіх і украінскіх землях. Аб гэтым скажу яшчэ ніжэй.

**Адносіны да ўраду** ў нас устанавіліся гэтакія. Першым урадам з якім прыйшлося спаткацца нам у Сойме і Сэнаце, быў урад Сікорскага. Урад гэты лічыўся левым. Правіца ішла проці яго, і дзеля гэтага ад нас, ад меньшасьцяў залежыла, ці дасьць яму Сойм даверее, ці не. Праўду сказаць, мы доўга задумываліся над гэтым пытаньнем. Чуяла наша душа, што калі мы і выявім даверые, дык гэтае даверые нашае будзе ашукана. Але ўсё-ж рашылі *на першы раз*, каб ня было пасьля ўкору, *падтрымаць урад*, тым больш „левы“, — нібы прыхільны да нас. Пасьля мы ніколі не шкадавалі аб гэтым, бо пасьля ніколі і ніхто ня мог укарыць нас ў тым, што мы ня ішлі, ці ня гатовы былі ісьці на спатканьне такому ўраду, ад якога мелі права спадзявацца на справядлівыя адносіны да нас. Так сама разам з усімі палякамі мы прыймалі зусім шчырае *ўчасьце ў выбарах прэзыдэнта*. Ад нас у значнай меры залежала тады, хто будзе выбраны, і цяпер ніколі ніхто ня можа нас папракнуць у тым што наш выбар (п. Нарутовіча) быў горшы, чым наступныя, у якіх прыймалі ўчасьце самі адны палякі!

Але калі нашае *даверые было ашукана*, калі ў адказ на сваё даверые мы ад ураду нічога ня атрымалі, — мы ўжо ніколі ня далі свайго даверыя аніводнаму ўраду і цьверда рашылі, што *ня дадзем яго датуль, пакуль ня дастанем рэальных, рэчавых довадаў* таго, што і нашыя інтэрэсы ў дзяржаве ня будуць занядбаны, што і мы — роўныя перад законам грамадзяне, — роўныя і з усімі меньшасьцямі, а нават і з палякамі ў іх панстве. *Гэтае свае становішча, якое мы ўважалі і ўважаем адпаведным паваге паслаўшага нас у Польскі Сойм і Сэнат беларускага народа, мы вытрымалі да канца*! Мы вытрымалі яго нават, тым, што ўжо ніколі ня прыймалі больш чыннага ўчасьця ў выбарах прэзыдэнтаў рэспублікі пасьля таго, як быў забіты той прэзыдэнт, у выбарах якога мы гэтае ўчасьце прыймалі і, як было відаць з сучаснай *правіцовай прэсы*, — толькі за тое, што мы меншасьці „асьмеліліся“ гэта зрабіць, асьмеліліся прылажыць руку да гэтых выбараў, асьмеліліся ўважаць сябе за раўнапраўных з палякамі грамадзян.

Пасьля поўгадовай працы **адносіны партыйных сілаў у Сойме** рэзка *зьмяніліся*, калі польская партыя Пяста з Вітасам на чале перайшла на старану правіцы. Урад Сікорскага змушаны быў выйсьці ў адстаўку, зьявіўся новы урад Вітаса, а ў Сойме запанавала *сталая правіцовая большасьць*. Да гэтага часу мы яшчэ маглі спадзявацца на нейкі ўплыў у Сойме, бо ні правіца, ні лявіца там сталай большасьці ня мела, і іншы раз галасаваньне залежала ад таго, за што галасуюць меншасьці. Цяпер ужо мы ня маглі спадзявацца на

які небудзь уплыў на справы ў Сойме. Правіцовая большасьць заўсёды мела рэшаючае значэньне а больш-менш правіцовыя ўрады ўжо тым больш ня думалі стаць да меншасьцявых груп на грунт роўнасьці і справядлівасьці. Асталася нам адно стаць у *вострую апазыцыю да ўсіх урадаў* і крычэць што ёсьць сілы аб сваіх патрэбах і аб тых крыўдах якія рабіліся ў адносінах да нас. Гэта адное нам аставалася і гэтае мы рабілі сколькі нам хапала сілаў і магчымасьці.

Мы з чыстым суменьнем можам цяпер сказаць што *ня мы вінаватыя* ў стварыўшымся такім становішчы. Самі палякі ня могуць нас папракнуць у тым, што той урад, які падтрымалі *мы*, быў горшы для Польшчы, чым той, які падтрымлівала польская правіца. *Грашовый курс*, гэты найлепшы тэрмомэтр (градусьнік) палітычна-эканамічнага жыцьця, паказывае што за поўгода кіраваньня Польшчай урадам Сікорскага, *падтрыманым меншасьцямі*, польская марка абнізілася толькі ў $2^1/_2$ *разы*, а за такі самы час *„чыста польскага“* ураду Вітаса марка абнізілася ў *1000 разоў*! Мы шчыра прызнаемся што мы не ад „польскага патрыотызму“ гэта рабілі, гэтае падтрыманьне, а толькі ад чэснасьці і сумленнасьці, але гэты факт яскрава сьведчыць аб тым, што ў панстве Польскім (як ува ўсякім) *большым ворагам ёсьць свой нацыянальны шавінізм, чым народавыя меньшасьці*! (вокляскі).

(Працяг будзе).

## Польскі радыкалізм і справа нац. меншасьцяў

(на Міжнарод. Кангрэсе радыкальн. аб'яднаньня ў Парыжу).

На нядаўна адбыўшымся ў Парыжу, кангрэсе Міжнароднага Аб'еднаньня радыкальных партыяў Эўропы, дзякуючы ўчасьцьцю ў ім дэлагатаў польскага радыкалізму, здарылася столькі цікаўнага і для нас, беларусоў, што варта падзяліцца з нашымі чытачамі і тымі скупымі весткамі, якія мы маем у польскай прэсе аб ходзе кангрэсу.

На апошнім паседжаньні Кангрэсу дэлегаты польскіх радыкальных партыяў выступілі з пекнымі прамовамі аб красуючым у сучаснай Польшчы на ўвесь край радыкалізьме.

Як падае „ПАТ“, нейкі доктар Мотц выхваляў радыкалізм у... праграме партыі „Вызваленьне“. Пасол Касьцялкоўскі, ведамы павадыр „радыкальна“-урадавай Партыі Працы (4 пасла — „урадавай большасьці“ у Сойме), вылажыў, як на далоні, — як спарадзілася і працуе гэтая „Партыя Працы“ у краі і ў урадзе.

Праўда, „радыкалізм“ гэтай партыі нeяк ня можа **зужыцца** ня толькі з парлямэнтарызмам, з якім, наадварот, чамусьці ня можа **разлучыцца** радыкалізм заходніх дэмакратыяў, але і з парлямэнтам дый наагул, — з дэмакратыяй, а нават — з зусім звычайнай законнасьцьцю ды прававым парадкам, якія пануюць нават у значна больш умеранай ідэолёгіі лібэралізму... Але пас. Касьцялкоўскі цалком высьветліў зацікаўленым калегам гэтую справу.

Ён казаў (глядзі тэлеграму Пат'а): „Калі цяпер польскі парлямэнтарызм перажывае ведамы крызыс (побач з поўным трыумфам „польскага радыкалізму“! Рэд.), дык гэта-ж таму, што польскі парлямэнт — сам уваўсім вінаваты!.. ён дзерзка працягнуў руку, каб захапіць сабе, апрача ўлады заканадаўчай, належачай яму бязспрэчна, яшчэ і атрыбуцыі ўлады выканаўчай“. Дык — ці-ж ня ясна, што якраз за гэта „польскаму парлямэнтарызму“ так „уляцела“, што і „упаў ў крызыс“. Так вясьняе прычыну крызысу парлямэнтарызму ў Польшчы п. Касьцялкоўскі у Парыжу.

Праўда, мы, седзячы тутака ў Польшчы, нешта чулі іншае,—што „польскі парлямэнтарызм“ больш году назад зрабіў быццам якраз наадварот: працягнуў руку“,—нават не адну, а абедзьве і правіцу і лявіцу, гэта праўда, — але толькі для таго, каб **аддаць „выканаўчай уладзе“, амаль не цалком**, свае заканадаўчыя правы і атрыбуцыі, пакінуўшы сабе толькі „жыцьцё, па-

збаўленае сэнсу жыцьця". Але пасол „польскага радыкалізму" на „міжнародавы Сойм" апошняга ведае, *што* і *як* трэба гаварыць сваім калегам-радыкалам „з вышыні гучнай міжнародавай трыбуны ў Парыжу".

Пасол Домбскі (гл. ў таго-ж Пат'а) у свой чарод расьпісваў шчыры радыкалізм сваей „радыкальна-халопскай партыі", кажучы, што яна няспынна вядзе ў краі „заядлую" барацьбу проці манархістаў, фашыстаў, проці ўсялякай дыктатуры, а перадусім проці абшарнікаў, ад якіх рашуча хоча адабраць усю зямлю бяз выкупу, пакінуўшы і ім і касьцелам толькі па 60 гэктараў", каб толькі - толькі не памерлі з голаду. Забыўся вось толькі і пасол Домбскі дадаць, што побач з „Клюбам Працы" пас. Касьцялкоўскага — яго „Хлопская Партыя" зьяўляецца адзінай толькі ў Сойме і ў краі партыяй, якая якраз разам з манархістамі, фашыстамі (зьлева), а перад усім з—абшарнікамі падтрымлівае бязумоўна сучасны дыктатарскі ўрад у Польшчы. Ну, гэта-ж — ведама,— драбяза... За тое ўжо зусім бязспрэчна сьцьвердзіў пан Домбскі ад імя ўсіх польскіх сялян, што яны ўсе, як адзін, толькі сьпяць дый увасьне бачуць, як-бы гэта з сучаснай Эўропы чым хутчэй зроблены былі „Злучаныя Штаты" наўзор Амэрыканскіх!..

Добра, шчыра, падрабязна, а галоўная рэч — сумленна, інфармавалі польскія радыкалы сваіх калегаў у Эўропе аб трыўмфах польскага радыкалізму ў краі.

Сярод „шляхотных" сябраў кангрэсу, якія пеўна-ж ня толькі з цікавасьцяй, але і з поўным даверыям выслухалі гэтыя інфармацыі, знайшліся усе-ж аж 2 „урода" (вырадка). Ці-ж трэба дадаваць, што адзін з іх аказаўся немцам, а другі — „паў-немцам". Нямецкі дэлегат Бэргштрасэр, пасьля высьветляючых тлумачэньняў пасла Касьцялкоўскага, запытаў яго, як усё-ж пагадзіць трыўмфуючы радыкалізм у Польшчы з пануючай у ёй „сыстэмай". На гэта адказаў доктар Мотц, улёт зразумеўшы, аб што ідзе мова. Гэта, праўда заявіў ён,—левыя партыі маюць сякія-такія засьцярогі што да тактыкі марш. Пілсудскага ў стасунку да парлямэнту, „але-ж" за тое (!!!) усе яны страшэнна здаволены і ўдзячны Пілсудскаму — за разгром эндэцыі, якая праз стольki гадоў як хацела круціла Польшчай"... Дык — ясна-ж — адно на адно і выходзіць. За разгром эндэцыі „лявіца" павінна-ж была, дый яшчэ „з удзячнасьцяй!", заплаціць прынамсь парламэнтарызмам, калі не самым — парлямэнтам!...

Дэлегат Галяндыі Захэр нямееш „недэлікатна" запытаўся, як пагадзіць той самы „трыумф радыкалізму" з тым, што робіцца ў Польшчы з нацыянальнымі меншасьцямі, папрасіўшы, каб польскія дэлегаты наагул высьветлілі, як стаіць справа гэтых меншасьцяў у Польшчы...

I галяндскаму дэлегату адказаў той самы спрытны доктар Мотц, дый яшчэ як лоўка! Пабажыўшыся, што „усе левыя польскія партыя шчыра стаяць на груньце (паперавым, праграмным!) шырокай аўтаноміі для меншасьцяў", ён далей ядавіта дадаў: „Польшча, гэта-ж, выбачайце, дзяржава маладая, маючая ўсяго 9 гадкоў! дык нават пры найлепшых жаданьнях — ну, папросту яшчэ ня здолела, ня было часу!— штосьці цікаўнага для кангрэсу зрабіць для сваіх меншасьцяў!... Але-ж тутака сядзяць дэлегаты дзяржаваў, якія існуюць ад сотняў гадоў, дык — хай-жа-ж яны раскажуць, што ў іх зроблена для іх меншасьцяў"... Шмат дэлегатаў, відаць, нават не зразумела, скольki тонкай, але потым няменш забіўчай іроніі ўлажыў польскі радыкал у свой адказ, як спрытна выкруціўся ён ад простага рэчовага адказу на запытаньне шляхотнага галяндца. I пачалі былі ўжо дэлегаты запісывацца да голасу. Трэба было „старшым братом" ды апекуном маладой дзяржавы ратаваць палажэньне. Адзін па адным — бэльгійскі, францускі, ангельскі — дэлегаты запратэставалі... Запратэставалі проці таго, каб кангрэс радыкалаў займаўся... „гэтай цікавячай **усіх**, а не **адных радыкалаў** справай, якая дзеля таго і павінна, калі ўжо разглядацца, дык прынамсь — на кангрэсах, маючых шырэйшы партыйны склад, чым гэты кангрэс радыкалаў".. Вось, калі-б, напрыклад, склікаць **супольны** кангрэс — радыкалаў з клерыкаламі, дый сацыялістаў з манархістамі, дадаўшы да іх яшчэ і камуністаў побач з нацыяналістамі,

тады — на гэткім **усе-партыйным** міжнародавым кангрэсе можна было-б разглядзець і справу нацыянальных меншасьцяў!... Так шляхотныя радыкалы старых дэмократыяў Англіі і Францыі — зьнялі нялоўкую справу меншасьцяў з абрадаў кангрэсу.

Пасьля гэтага адратаваць гонар „польскага радыкалізму" польскай дэлегацыі было ўжо зусім лёгка!.. Пас. Домбскі шляхотна заявіў, што польская дэлегацыя зусім не працівіцца дыскусыі ў справе меншасьцяў на кангрэсе. Наадварот! — яна лічыць, што якраз на кангрэс радыкальных партыяў трэба абгаварываць гэтую справу! Толькі вось, зразумела, калі ўжо гутарыць аб меншасьцях, дык, — чаму-ж запраўды — толькі аб меншасьцях у Польшчы?! Трэба, калі распачынаць дыскусыі, дык — ужо аб усіх меншасьцях ува ўсіх краёх... „Польшча не баіцца гэтай дыскусыі, для Польшчы гэтая справа — зусім не такая „дэлікатная", Польшча мае ў справе сваіх меншасьцяў чыстае, як золата, сумленьне!", казаў шляхотны польскі радыкал. „Але польская дэлегацыя трэбуе справядлівасьці!". І польскі дэлегат скончыў сваю прамову на кангрэсе — апошнім!

Справа меншасьцяў была **пахавана** на кангрэсе эўрапэйскіх готэнтотаў, выбачайце — радыкалаў... Але за тое — хаўтуры адбыліся ў поўным сэнсе слова — „па першаму разраду", — пад такую мілагучную, шляхотную, сумленную прамову польскага дэлегата, п. Домбскага, што гэтай нябошчыцы стала цепла ды салодка нават у яе „радыкальнай" труне і магіле...

**Наглядчык.**

## Адказ мітрапаліта Дыянізыя мітрапаліту Сергію. (Аканчаньне).

Далей мітр. Дыанісі ўспамінае аб страшным чыне „поўным самымі цяжкімі вынікамі для св. праваслаўя ў Польшчы, калі-б на помач ня прышоў адпачатковы абаронца праваслаўя сьв. Ўсяленскі Патрыарх".

Тут разумеецца запраўды страшны па сваяму маральнаму значэньню выпадак забойства архім. Смарагдам мітрап. Георгія (няхай прасьціць яму Бог гэты праступак за тую душэўную тугу аб Царкве, якую ён перажыў *). Але **цяжкім вынікам** гэтага забойства для праваслаўнае царквы была адно: замест мітр. Георгія, які пры ўсіх сваіх недахопках і цяжкіх вінах проці Царквы ў Польшчы, пры сваём цяжкім характару ўсё-ж уладаў нейкай доляй душэўнае простасьці і шчырасьці, узайшоў на мітрапалічы прастол яго наступнік, які ня меў і гэтых якасьцяў. „Рэўнасьць аб Царкве" ў Польшчы наўперад за ўсё у яго выявілася ў тым, што ён пры выбарах яго Сынодам за мітрапаліта, выразіў „катэгарычнае пажаданьне" („Вестнік Прав. Мітр. у Польшчы" № 39—40 за 1924 год) пры атрыманьні становішча мітрапаліта **пазаставіць за сабой і Валынскую епархію** (самая багатая, чаго ня вымагаў і мітр. Горгі.

Мы ня можам зразумець, чым „прышоў на помач" Польскай Царкве Константынопальскі патрыярх. Яго ўмешацельства патрэбна было ня Царкве, а таму-ж Сыноду і іерархіі, каб выйсьці з пад улады „любімае мацеры". „Умешацельства" гэтае аднак патрэбавала такіх вялікіх расходаў, што з-за гэтага Сэнат у 1923 годзе амаль што ня адкінуў буджэтнага прэлімінарыя, здаецца, за другі квартал 1923 году. Ня хапіла ўсяго чатырох галасоў.

Гэты-ж Канстантынопальскі патрыярх амаль што ня адначасна, такжа напэўна, „як ісконны абаронца праваслаўя" ідучы на помач, прызнаў бальшавіцкую „жывую Царкву" у Расеі і прыслаў туды свайго прадстаўніка Васілія Дэманула.

Але найлепшы за ўсё гэта канец адказу. Ён перапоўнены цэлым ворахам

*) Адзін з маіх калегаў па Сенату, паляк і працўнік маіх выступленьняў у Сенаце на царкоўным пытаньні, прачытаўшы адзін раз абаронную прамову нябошчыка Т. Урублеўскага ў справе Смарагда, убачыўшы мяне, пабег да мяне і горача вітаючы, шчыра гаварыў: „otoż teraz ja widzę, o co panowie walczycie".

салодкіх выразаў і уздохаў па адрэсу быўшае „любімае мацеры“, а цяпер „любімае сястры“ аб яе гаратной судзьбе, якой мы заўсёды „саўздыхалі“, якая ня адмовіць назваць Польскую Царкву сястрой і г. д.

Дзіўна толькі, чаму гэтая „новая сястра“, а быўшая дачка, так старанна імкнулася аддзяліцца ад „любімае мацяры“ і шукала сабе другой мацяры на старонцы у асобе Констацінопольскай Царквы. Хай разлука была гвалтоўнаў, але тым радаснай павінна быць спатканьне і паварот, а калі гэты паварот ужо нямагчымы, калі дачка ўжо збудавала сабе новае асобнае гняздо, дык тым мацней павінна была-б спяшыць да „любімае“ мацеры за багаславеньнем. Аднак яна гэтага ня робіць. Чаму-ж? Аказываецца, ёсьць сурёзная перашкода (я ня думаў, што тут сустрэчуся як ідэёвы аднамысьльнік з мітр. Дыанісіям). Перашкода заключаецца ў тым, што гэтая Царква-мацер страдае „адсутнасьцьцю прызнанага галавы“. Але, піша далей мітр. Дыанісі: „калі на чале яе стане **ўсім народам праваслаўным прызнаны перваіерах**, мы будзем старанна прасіць аб гэтым (багаславеньні)“.

Ня будзем доўга гаварыць аб тым, што і тут як і ва ўсім пісьме, няпраўда. Быў на чале гэтае царквы і „усім праваслаўным народам прызнаны перваіерарх“ (патр. Ціхан), але і тагды м. Дыанісі ня сьпяшыў да „любімае мацеры“ за багаславеньнем. А калі сама мацер у асобе патр. Ціхана зьвярнулася да яго, дык ён **цягнуў з адказам балей паловы году і так і ня паслаў яго**, а замест гэтага пасьпяшыў... з фармальнай установай аўтакефаліі, якая амаль што ня зыйшлася са сьмерцьцю патрыарха.

Усё гэта: „і любімая мацер“ і „саўздыхаем“ ёсьць адная толькі рытрыка і „ліцэмерые“, але і тут прыпадкова знайшліся дзейсна залатыя славы, якімі няспадзевана прагаварыўся мітр. Дыанісі. Ён піша, што пойдзе за багаславеньнем толькі да таго первоіерарха „які будзе прызнаны ўсімі праваслаўным народам“. Меньшага : м. Дыанісі адносна главы Ўсерасійскае Царквы ня прызнае. Мы з ім зусім згаджаемся, але пры гэтым запытаем: **калі і якім актам ён сам, м. Дыанісі, прызнаны ўсім праваслаўным народам у Польшчы?**

А калі не, — дык **на якой-жа падставе ён сам лічыць сябе перваіерархам усея Польшчы?**.. На якой падставе **бяз прызнаньня ўсяго народу ён увадзіў у жыцьцё гэтае Царквы перамены радыкальна зьменяючыя ўвесь яе строй? Ці ня на гэтым, што прымаў дзейснае учасьцьце у выкіданьні і затачэньні іерархаў, якія былі выбраны ўсім народам і пастаўлены ўсенародным выбраннікам Патрыархам „вялікім гаспадзінам і айцом нашым“?**

Калі-б мітр. Дыанісы дзейна хацеў ісьці гэтым шляхам, то ён перад тым, як прыняць годнасьць і ўладу мітрапаліта, павінен быў сазваць сабор паводле канонаў царквы-мацеры, атрымаць ня яго склікаўньне ад патрыарха багаславеньне, быць на ім выбраным на становішча мітрапаліта і потым такім жа шляхам склікаць сабор для вырашэньня пытаньня аб аўтакефаліі. Вось тагды-а усесь праваслаўны народ і абсудзіў бы пытаньне, ці дала Польская дзяржава праваслаўнай Царкве належачую ўнутраннюю свабоду і незалежнасьць, патрэбную для самастойнага істнаваньня і тагды і „самаазначыў бы сябе“ да такога аўтакефальнага жыцьця. Тагды і Царква—мацер ня адмовіла-б у багаславеньні гэтакай аўтакефаліі, пераканаўшыся, што „дачка“ дасьпела да самастойнага істнаваньня і што на чале яе знаходзіцца мудры і добры пастыр. Усё гэта па евангельскай мове (гл. Іоан. X гл.) называецца: „уваходзіць у аўчарную праз дзверы, г. е. ісьці дарогай кананічнае праўды Хрыстовай. А хто гэтага ня робіць, а захапліваае царкоўную ўладу самачынна, або ад самачыннікаў, тады паводле Евангелія, ён называецца: „прэлазяй і нудэ“ і той ёсьць паводле Евангелія... хто той ёсьць, мітр: Дыанісі добра ведае.

**В. Багдановіч.**

# 10-гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага сабору ў часе бальшавіцкага перавароту).

(працяг).

**4 лістападу.** На пленарным паседжаньні мітрапаліт Маскоўскі Ціхан дакладывае аб тым, як учора ён з камісіяй прабраўся ў Крэмль разам з еп. Анастасіям, пратаіерэям Усьпенскага Сабору Любімавым, сэкрэт. Бенешэвічам і іншымі і што там яны бачылі. У Крэмль іх доўга ня пускалі, і яны змушаны былі шмат часу шукаць пропуску праз розныя брамы. Нарэшце пропуска дабіліся. Расказ іх зусім згодны з тым, што (вышэй) расказывалі іншыя. Іх апавяданьне даканьчывае і мітр. Веніамін, які ўвесь час асады правёў у Крэмлі.

Пасьля дакладаў на парадак дня пастаўлена было пытаньне аб часе і цэрэмоніяле *выбараў патрыярха.* Як я ўжо казаў *) на пленарным паседжаньні 29-га кастрычніка было выбрана тры аканчальных кандыдаты на патрыарха: Антоні (Храпавіцкі, архіеп. Харкаўскі, — пасьля мітр. Украінскі), Арсені, архіеп. Наўгародскі і Ціхан, мітр. Маскоўскі. З гэтых трох пастаноўлена было выбраць аднаго пры помачы жрэбія (лёсаваньня). Вырашана што гэтае лёсаваньне адбудзецца ў нядзелю 5-га лістапада пасьля абедні ў Храме Хрыста Спасіцеля. Выпрацаваны быў увесь цэрэмоніал і выбрана была і асобная камісія з сяброў Сабору, ў прысутнасьці якой адбудуцца ўсе фармальнасьці жрэбія. Апрача таго назначылі асобную камісію для хадатайства аб абароне Крэмля ад грабежа.

**5-га лістапада** адбыўся астатні акт усенароднага *выбару патрыярха.* Ня гледзючы на тое што пастанова аб гэтым зроблена была Саборам толькі накануне і што ў Сабора ўжо ня было ніякіх средстваў, каб аб'весьціць аб гэтым шырокім кругам грамадзянства, вестка аб заўтрашніх выбарах разнясласе маланкай па Маскве, і ўжо зраньня вялізарны Сабор Хрыста Спасіцела, зьмяшчаючы больш 12.000 багамольцаў **) быў набіты бітком. У багаслужэньні прыймалі ўчасьце больш 25 архіерэяў і шмат ніжэйшага духавенства. Першэнстваваў мітрапаліт Кіеўскі Уладзімір (пасьля забіты бальшавікамі ў Кіеўскай Лаўры).

Пасьля „часоў" перад абедняй, згодна з цэрэмоніалам, мітр. Уладзімір увайшоў у алтар. Тут яму падалі асобы сярэбраны каўчэжац (скрыначку), прынесяны з старой патрыяршай рызніцы, і тры кавалачка пергаменнай паперы, на якіх былі напісаны тры імя: Антоні, мітр. Харкаўскі, Арсені, архіеп. Наўгародскі і Ціхан, мітр. Маскоўскі. У прысутнасьці ўсяго духавенства і камісіі, выбранай ад Сабору, мітрапаліт улажыў тры паперкі у каўчэжац; каўчэжац гэты апяразалі накрыж стужкай, запячаталі саборнай пячаткай і паставілі яго перад образам Божай Мацяры „Уладзімерскай", які наўмысьлі быў прынесены з Крэмля і пастаўлены злева ад „царскіх врат". Каля абраза сталі ў „пачотный караул" выбраные сябры Сабору.

Трудна перадаць тот зусім асобны паднесены настрой, які панаваў у сэрцах многатысячных багамольцаў, сабраўшыхся на гэтую ўсенародную царкоўную ўрачыстасьць. Настрою гэтаму безумоўна памагалі і толькі што перажытыя ўсімі ўжасы братабойнай вулічнай вайны. Памятаю, што калі ішоў і я ў Храм Хрыста Спасіцеля, дык страшэнна шкадаваў, што выходзячы не паглядзеў, якій на гэты дзень, паводле царкоўнага ўстава, паложаны „апостал" і евангелие, бо здавалася, што так неспадзявана і няпадгатавана наплыўшая ўрачыстасьць, павінна была-б неяк сымбалічна адзначыцца і паложанымі на гэты дзень евангельскімі і апостальскімі чытаньнямі. Дзеля гэтага калі прыбліжыўся час чытаньня апостала мімаволі я (а як пасьля даведаўся і другія сябры) з нейкім душэўным трэпетам, чакаў: які, запяюць пракімен, які будзе „апостал", якое евангеліе? *). Чую пяюць:

*) Гл. № 5 „Прав. Бел." за 1927 г., стар. 10.

**) Сабор гэты каля 48 саж. вышыні і займае плошчу больш 1600 кв. саж. (тры чэцьв. дзесяц. зямлі).

*) Была „нядзеля 24, глас 7", апостал к Ефес. II, 14 — 22; евангеліе Лукі, VIII, 41 — 56.

„Господь крепость людзям своим даст, Господь *благословит люди своя миром*“. Далей ідзе апостал, пачынаючыся славамі: „*Той есть мир наш*“, далей ідзе евангеліе аб ускрашэньні дачкі Іаіра і аб ісцэленьні крыватачывай жанчыны, якое таксама аканчываецца славамі „*ідзі с миром*“. Гэта тры разы паўтароные абяцаньні міру мімаволі аддавалася ў настроянай містычна душы, як вышэйшае „Божае абятаваньне“. Некаторыя з сяброў Сабору ў прачытаным евангеліі хацелі відзець як бы нейкае прароцтва аб ускрашэньні Царквы (дачка Іаіра), у сувязі з якім перастане „крыватачыць“ і вялікая дзяржава.

Пасьля абедні і малебна, на якім была прачытана асобная малітва, зложаная па абразцу малітвы, якой маліліся апосталы, калі выбіралі новага апостала замест Іуды Іскарыота (Гл. Дзеян. I, 24), мітрапаліт Уладзімір, падыйшоўшы да абраза Уладзімірскай Божыяй Мацяры, узяў каўчэжац, стаў перад народам на амвоне і, высока падняўшы яго, тры разы багаславіў ім народ, патрасаючы ім, каб зьмяшаліся находзячыяся ўнутры каўчэжца крэпка скручаныя паперкі з імёнамі кандыдатаў. З алтара з аднаго боку выйшаў сэкрэтар Сабору Вас. Паўл. Шэін *) і падаў мітрапаліту ножніцы, якімі той разрэзаў стужку і зьняў пячаткі, а з другога боку падыйшоў схіманах Алексей. Гэта быў знаманіты і папулярны сярод народа манах – падвіжнік, які некалькі гадоў сядзеў зачыніўшыся ў затворы. Яму, па пастанове Сабору і даручана было выцягнуць жрэбі. Агульнае напружаньне ўсіх прысутных багамольцаў дасягнула астатняй меры. У вялізарным Саборы пры мнотысячным натоўпе, здаецца можна было-б пачуць калі-б праляцела муха; усе затаілі дыханьне і чакалі. Схімнік Аляксей, глыбокі старык, ня сьпяша, паволі, падняўшы вочы ў гару, тры разы пяражагнаўшыся і, працягнуўшы руку да каўчэжца, вынуў адну паперку і падаў яе мітрапаліту. Той разьвярнуў яе і сваім ціхім голасам (але чутна было ўва усім Саборы пры той цішы якая там панавала) прачытаў:

— Ціхан, мітрапаліт Маскоўскі...

*) Быушы сэкрэтар „Государств. Думы“. Пасьля сабору ен прыняу сьвяшчэнны сан і быу у Петраградзе разстрэляны бальшавікамі разам з мітр. Веніамінам.

— „Аксіос“!! — як з адных грудзей вырваўся з тысячнага натоўпу багамольцаў.

— Аксіос, — сказаў мітрапаліт.

— Аксіос, аксіос, аксіос, — запеялі пеўчыя на крыласе *).

Усіх ахапіла нейкае пачуцьцё лёгкасьці, бо дасюль ніхто ня ведаў, які з трох кандыдатаў найлепшы. Антонія ўважалі найлепшым тыя, хто шукалі ў патрыарсе разумнейшага і вучонага, Арсенія, — хто шукаў цьвердага адміністратара з моцнай воляй. Выбраным аказаўся той, якога ўсе *любілі* за яго прастату, прыветлівасьць, адзыўчывасьць і дабрату да ўсіх. І тут усе неяк зразумелі, што ў гэтыя часы агульнай трывогі, народных патрасевьняў і разбежнасьцяў найбольш патрэбны іменна такі чалавек, які можа да ўсіх аднясьціся прыхільна і дображадаўча. Зразумелі гэта нават тыя, хто былі гарачымі прыхільнікамі Антонія ці Арсенія.

Тым часам тыя, каго выбіралі, сядзелі дома і ў урачыстым багаслужэньні удзелу ня прыймалі. Мітрапаліт Ціхан быў на сваім мітрапалічным „падворы“ (на „Самацеку“) у яго-ж быў і мітрап. Антоні. Пасьля выбараў ад сабора была вызначана асобная камісія, якая павінна была урачыста аб'явіць мітрапаліту Ціхану, аб яго „ізбраніі“. Камісія паехала да яго проста з сабору. Але знайшліся людзі якія папярадзілі камісію і абвясьцілі мітр. Ціхана уперад аб яго выбарах, так што ён, разам з мітр. Антоніям, спаткаў камісію ужо у сваей дамовай царкве. Выслухаўшы абвешчаньне, мітр. Ціхан адслужыў кароткі малебен, на якім мітр. Антоні сказаў гарачую, бліскучую прамову і пакланіўся нававыбранаму усенародна патрыарху да зямлі.

*) „Аксіос“—слова грэчаскае; значыць яно— дастойны, варты. Абычай пяяць слова „аксіос“ пры усякім пастауленьні у царкоуны сьвяшчэнны сан (епіскапа, сьвяшчэнніка, дыакана) вядзе свой пачатак ад самых старых часоу, калі на гэтыя становішчы выбіралі кандыдатау усім народам. Гэтым выклікам: „аксіос“ народ выражау свае задаваленьне і згоду на пастауленьне дадзенага кандыдата. Звычайна цяпер робіцца так: уперад слова „аксіос“ выклікае той архіерэй, каторый пастауляе, тады падхоплівае гэтае слова усе духавенства, а за ім пеучыя (ад імя народу). Тут, пры выбарах патрыарха Ціхана, народ, з прычыны напружанага становішча, папярэдзіу усіх: і архіерэяу, і духавенства, і пеучых.

Так выбраны быў першы пасьля 200—гадовага перарыву Маскоўскі патрыярх Ціхан, які цяпер стаў на чале бяз параўнаньня найвялікшай у сьвеце праваслаўнай царквы.

**10 лістапада.** Пасьля выбараў патрыярха я у той самы дзень выехаў на некалькі дзён у Разань да сваей сям'і, якая за гэтыя смутныя дні нават і ня ведала аб тым, ці я жыў, ці не, бо цягнікі ня хадзілі, пошта ня працавала, газэт ня было, былі адны чуткі і чуткі, якія пашыралі і былі і нябыліцы. 9-га лістапада я прыехаў узноў у Маскву. На 10-е бальшавіцкай уладай было вызначана урачыстае пахаваньне бальшавіцкіх ахвяраў межусобнай барацьбы, якіх было больш 300 чалавек (здаецца 325). Хавалі іх „гражданскімі похоронамі": бяз духавенства, бяз царквы, бяз малітвы, бяз адпяваньня, у чырвоных трунах, і нават ня на кладбішчы, але на „Чырвоным пляцу" (на „Красной площади") пад Крэмлёўскай сьцяной.

Даведаўшыся аб гэтым, Сабор абмаўляў гэтую справу, бо бязумоўна сярод гэтых ахвяраў было ня мала такіх, якія ішлі на барацьбу, ня ведаючы, што яны робяць, і якія напэўна не хацелі, каб іх хавалі „гражданскімі пахаронамі". Дзеля гэтага Сабор даручыў мітр. Платону заведацца аб гэтым пахаваньню і даць дразумецъ тым, хто гэтым кіруе, што духавенства праваслаўнае гатова напутстваваць забітых. Гэта місія м. Платона, разумеетцца, асталася бяз рэзультату.

Адначасна зьвярнуліся да Сабору бацькі „абаронцаў Крэмля" з прозьбай памаліцца аб іх і прыняць учасьцце у іх пахаваньню, і Сабор паслаў да іх частку духавенства. На гэтых хаўтурах ня было афіцыяльнай урачыстасьці, але было шмат гора і сьлёз і яшчэ больш малітвы. Ахвяр было нямнога, ня памятую 27, ці 29, але гэта была усё моладзь: юнкеры, студэнты, кадэты, гімназісты. Ня магчыма было гладзець на слёзы бедных матак. Некатарых падчас адпяваньня вынясьлі на руках самлеўшых. Труны былі зьбітыя з простых, нават нячышчаных, дошак. Пасьля адпяваньня іх вынясьлі і паставілі папярок па некалькі штук на прастыя дрогі ламавых ізвошчыкаў.—„Сын мой, сын мой",—чуліся адусюль енкі нашчасных матак.

Сумную працесію правадзілі тысячныя натоўпы народу. Бальшавікі зорка сьлядзілі за усім, але пахаваньню ня перашкаджалі.

Так закончылася межусобная барацьба, якая прывяла бальшавікоў да улады, а разам з тым мімаволі дапамагла і прысьпяшыла адраджэньне патрыяршэства ў расейскай царкве. Адначасна радзілася „бязбожная улада" і адрадзілася „Царства Божае" — Царква.

21-га лістапада у Крэмлеўскім Усьпенскім саборы урачыста адбылася „інтронізацыя" новага патрыярха (пастаўленьне на патрыяршы прэстол).

На гэтым я мог бы і пакончыць з сваімі успамінамі, але, чую патрэбу падзяліцца з чытачамі нашымі расказам аб першым варажым спатканьні паміж новай царквой і новай уладай.

(Працяг будзе).

**В. Багдановіч.**

## ЧАРГОВОЕ ЗАДАНЬНЕ.

Паводле выбарнага календара **з 2-га да 15 га студня** у памешканьні кожнага абводу выстаўлены сьпіскі для агляду. Кожны грамадзянін, якому належыць права выбіраньня, ў пэўныя гадзіны можа зайсьці да сваяго абводу **пераглядзець сьпіскі выбаршчыкоў і пераканацца, ці занесены ён у сьпіскі**, ці не. А калі-б пры аглядзе выявілася, што ён з якіх колячы прычынаў у сьпісках прапушчаны, дык тагды ён мае права трэбаваць, каб яго унесьлі ў лік выбаршчыкаў. **Пратэст складаецца да тэй абводнай Камісіі, гдзе ён павінен галасаваць. Апошні тэрмін складаньня пратэсту 16 студня.** Гэта астатні дзень, ў які будуць прыймаць пратэсты. Ня ведама, як стаіць цяпер справа з выбарнымі сьпіскамі, але мы павінны адзначыць, што ў часе выбараў у 1922 года яна стаяла

надта дрэнна. Цэлы шэраг выбаршчыкаў, асобна на так званых крэсах, г. ё на беларускіх і украінскіх землях ня быў унесены да сьпіскаў і такім чынам быў пазбаўлены права і магчымасьці галасаваньня. Галоўнай прычынай ня ўнесеньня ў выбарныя сьпіскі тагды лічылі адсутнасьць у няўнесяных у сьпіскі польскага грамадзянства (obywatelstwa). Бязумоўна і цяпер будзе шмат выпадкаў, калі нейкія асобы з тых ці іншых прычынаў ня будуць унесены ў сьпіскі, і такім спосабам будуць пазбаўлены магчымасьці прыняць удзел у галасаваньні.

Ёсьць толькі адзін спосаб барацьбы з гэтым зьявішчам: гэта актыўное змаганьне за сваё права. Кожны беларус, маючы права выбіраньня, павінен лічыць сваім грамадзянскім абавязкам у вызначаным тэрміне зьвярнуцца да выбарнае абвадовае камісіі і самаму асабіста праверыць, ці занесены ён у выбарныя спіскі. На жаль беларусы надта мала цікавяцца выбарнай справай. Газэты паведамляюць, што на працягу цэлага дня у абводную камісію часта ня зьявіцца ані воднае асобы, якая-б цікавілася сваім выбарным правам. Гэтае нядбальства у абароне сваіх нацыянальных і сацыяльных правоў выклікае цяжкія думкі...

Ці ня час ужо нам апамятавацца! Ці ня час зразумець, што, калі мы самі ня будзем рупіцца аб сваіх правох, аб сваей лепшай будучыні, дык ніхто іншы за нас гэтага ня зробіць. Час нам зразумець вялізарнае значэньне выбарнага прадстаўніцтва ў справе адраджэньня нашага нацыянальнага і сацыяльнага жыцьця, у справе палепшаньня нашае гаротнае долі. Пазастаецца яшчэ некалькі дзён, у якія мы можам скарыстаць свае правы агляду спіскаў. Дык пойдзем усе у абводы і пераканаемся, што мы ня пазбаўлены нашага грамадзянскага права і, калі прыдзе тэрмін, зможым выканаць свой абявязак перад бацькаўшчынай і перад родным народам..

**Пр. Л. Голад**

## ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Частаваньне архіеп. Елеўферыя у Коўне.** 15-га сьнежня (ст. ст.) бываюць імяніны высокопр. архіеп. Елеўферыя. Кожны год уся яго Ковенская паства урачыста сьвяткуе гэты дзень. У гэтым годзе, як паведамляюць з Коўны, сьвяткаваньне мела асабліва урачысты і сэрдэчны характар. Памаліцца з ўладыкай з'ехалася многа духавенства з правінцыяў. Ўладыцы паднясьлі прыгожае белае архіерэйскае аблачэньне з нашытымі на яго абразкамі, прысланымі ад яго пачытацеляў з Вільні.

**Цэркаў і касьцёл у С.С.С.Р.** Як паведамляюць газэты, каталіцкая вышэйшая касьцельная ўлада ў С.С.С.Р. прызнала савецкую ўладу і абяцала ей лёяльнасьць. З поваду заявы аб лёяльнасьці да сав. улады мітр. Сергія ідуць там мітынгі, на якіх гэтая справа абгаварываецца. Здаецца, як і ўва ўсім, савецкая ўлада ашукала і пакульшто абяцаных правоў, апрача аргянізацыі Сынода, праваслаўнай царкве ня дае.

**Аддзяленьне заграбнічнага (эміграбнскага) расейскага Сыноду ад Расейскага Маскоўскага Патрыархату.** Газэты паведамляюць, што пастанаўленьнем Архіерэйскага Сабору у Сремскіх Карлаўцах Заграбнічны Сынод на чале з мітр. Антоніям, (Храпавіцкім) аддзяліўся ад Расейскай Царквы, на чале якой стаіць часова мітр. Сергій

(быўшый асабісты друг Антонія). Прычынай ёсьць прызнаньне Сергіям савецкай улады і аб'яўленьне ей лёяльнасьці.

**Увага Рэдакцыі:** Наогул справа гэта ёсьць такая цікавая і паважная, што рэдакцыя уважае ў хуткім часе сказаць аб ёй колькі слоў.

**Уход з Варшаўскай кансысторыі прат. Барэцкага.** Усім духоўным, хто ведае, чым быў гэты протаіерэй ня толькі для Варшаўскай епархіі, але і для ўсей праваслаўнай гарквы ў Польшчы, добра зразумема, што гэта цэлае шчасьце для царквы. Але... пры тым кансісторскім парадку, які пануе ў нас... знойдзецца другі „Барэцкі" можа горшы.

## Палітычная хроніка.

**Канфіскат „Націо".** Па загаду ураду сканфіскаваны № 11—12 органу нацыянальных меншасьцяў. Цэлы нумар быў афяраваны разважаньню пытаньняў у сувязі з надходзячымі выбарамі.

**Вынікі „разбраеньня".** Як паведамляе аўстрыйскі ўрад, на пагранічнай станцыі Сен-Готард у Венгрыі аўстрыйская таможэнная ўлада атрымала фактуры на транспорт 5 вагонаў машынаў. Пры аглядзе таможэннай уладай была выяўлена, што заместа машынаў перапраўляюцца разабраныя кулямёты. Выявіўшы гэта, аўстрыйская таможэнная ўлада зажадала ад венгерскага ураду, каб вагоны былі адпраўляны назад.

**„Тавараабмен" Польшчы з СССР** 3 студня каля ст. Стоўпцы адбыўся абмен палітычнымі. З СССР у абмен прыслалі 11 палякоў за якіх польскі ўрад звальняе 9 бальшавікоў. Самы абмен павінен адбыцца ў Коласаве.

**Жыдоўская сэкцыя блёку нацыянальных меньшасьцяў.** „Unzer Express" паведамляе, што пад старшынствам Грынбаума адбылося паседжаньне цэнтральнага выбарнага камітэту жыдоўскай сэкцыі. Пастаноўлена выбраць выканаўчы камітэт у укі уваходзіць па аднаму прадстаўніку ад кожнае партыі.

**П.П.С. за мандаты абяцаюць аўтаномію.** Як ведама да часу выбараў у санацыйным урадзе яны адыгрывалі не апошнюю ролю. Не адзін раз іх прадстаўнікі займалі міністэрскія крэсла, але штось аб аўтаноміі маўчалі. Але вось цяпер, калі падайшлі выбары, захацелася ім ізноў беларускімі галасамі прайсьці ў Сойм. Трэба чымсь замазаць беларускаму сялянству вочы. І вось загаварылі аб аўтаноміі... Хопіць з нас, паночкі, тых аўтанамістаў, якіх вы прыслалі з Варшавы на нашыя беларускія абшары. Беларускі селянін цяпер добра ведае, што П.П.С-ы даюць аўтаномію толькі ў часе выбараў, а пасьля выбараў... **асаднікаў.**

**„Жыў Курылка"** Пасол Ваявудзкі, аб якім сусім ня чуваць было ад самага соймавага суда над ім, ізноў выплывае на выбарны гарізонт і ізноў у сувязі з справай „Грамады". Газэты паведамляюць, што 29-га сьнежня паліцыя зрабіла рэвізію ў Варшаве ў памешканьні „Незалежнай Хлопскай Партыі", а пасьля і ў суседнім пакоі п. Ваявудзкага, якога не было дома. Пры гэым было знойдзена „палітычная савецкая літаратура і перапіска Ваявудскага з бальшавікамі, усяго весам 20 кіло (пуд і 10 ф.). А 2 гадзіне дня зьявіўся у сваю кватэру і сам Ваявудзкі. Яго таксама абыскаі і знайшлі „пісьмы ад амэрыканскіх камуністаў адносна грашавой помачы „Грамадзе". Паліцыя запыталася міністэрства, ці арыштаваць п. Ваявудскага, але атрымала прыказ аставіць яго дома.

Дужа штат дзіўнага ў гэтай справе! як гэта п. Ваявудскі насіў у кішані у працягу амаль што ня цэлага году кампрамітуючыя „Грамаду" паперы і не знайшоў часу іх зьнішчыць? Калі гэтыя паперы былі такія важныя і ўзапраўды кампрамітуюыя, то як жа п. Ваявудскага аставілі на свабодзе, калі

усіх „грамадаўцаў“ трымаюць у турме?

Як мы ведаем сам урад і соймавы суд сьцвердзіў, што п. Ваявудскі прычастны да польскай дэфэнзывы.

Тут можа ўсяму дзіўнаму канец. Але дзіўным астаецца тое, што гэтаму чалавеку, аб якім ня ведаем, дзе канчаецца ў ім бальшавіцкі агент, а дзе пачынаецца польская дэфэнзыва,— яму верылі да яшчэ і дасюль веруць некаторыя нашы грамадаўцы.

**„Народная Ніва“**. Выйшаў у сьвет першы нумар часопісі „Народная Ніва“. Гэтая часопісь будзе органам „Праваслаўнага Дэмакратычнага Аб'яднаньня“ (ці П. Д. О.). Так будзе называцца тая партыя, якую ў прошлым нумары сваей часопісі мы назвалі „мітрапалічым блёкам“, бо пачалася яна, як мы паведамілі нашых чытачоў, у мітрапалічых пакоях. Прымаючы пад увагу тое, што ў мітрапаліта нічога ня робіцца бяз папярэдняй згоды, ці нават, бяз прыказу міністэрства асьветы, можна з пэўнасцьцю сказаць, што гэта партыя утворана „з ведама і адабрэньня“ ураду і утворана з спэцыяльнай мэтай разбурываньня „Блёку Нац. Меншасьцяў“, а перад усім нашага праваулаўнага **Беларускага аб'яднаньня**“. Гэта так ясна нават з таго, што і назоў партыі амаль што ня наш і праграму, здаецца, у значнай меры (калі судзіць на перадачы яе зьместу ў часопісі) ўзялі ад нас. Што-ж рабіць! Відаць „экспропрыацыя“ цяпер ізноў стала ў модзе.

Выдаўцом новай часопісі падпісаўся Д. Бохан, рэдактарам сьв. А. Коўш, галоўнымі супрацоўнікамі арх. Ф. Марозаў і А. Назарэўскі, б. сэнатар.

Уражаньне ад яе дужа сумнае. Апрача невялічкай перадавіцы „ад рэдакцыі“ у першым нумары зьмешчаны толькі дзьве маленькіх стацейкі, ды й тыя на адну тэму і ледзьве ня пад адным назовам: „Духавенства і палітыка“— Каўша і „Духавенства і Народ“—Філіпа Марозава. Часопісь друкуецца на трох мовах: беларускай, украінскай і расейскай, так што выходзіць увесь зьмест— шэсць артыкулаў на адну тэму. Прачытаеш, дык атрымаеш знаёмае ўражаньне, быццам прачытаў шэсьць сшыткоў вучнёўскіх клясовых працаў.

У перадавіцы гаворыцца, што часопісь мае на мэце **аб'яднаць усіх каля Царквы.** Стацьця гэтае кажа, што „**усе у нас забыліся пра рэлігію і пра Царкву**“. Вось табе і раз! А мы-ж думалі што мы ня забыліся? Ужо колькі гадоў крычым *мы* аб яе балячках, крычым на ўвесь сьвет, крэчэлі пяць гадоў у Сойме і Сэнаце, на старонках часопісяў усіх моваў. За аб'ядначую сілу „сабарнага строю“ царквы змагаліся чатыры архіерэі, якіх зьмясьцілі з кафедраў і вывязьлі з Польшчы, змагаліся і міране, і ніжэйшае духавенства (арх. Ціхан, прот. Голод) якіх таксам высылалі і садзілі у турмы, і народ, які абіваў парогі па ваяводствах, староствах, міністэрствах і у паслоў, а казалася... „усе забыліся“! Успомнілі, толькі выдаўцы часопісі „Народная Ніва“, ды і то **у час выбараў у Сойм і Сэнат**! „Какое странное совпаденіе“!

**Забойства Італьянскага віцэконсула**. 29 сьнежня ў Адэсе забіты італьянскі віцэконсул Казіо. Бандыты зьнялі з забітага вопратку, і вырвалі залатыя штучныя зубы. Забітаму было каля 75 гадоў. Як паведамляюць зазэты Італьянскі прэмьер-Мусаліні гатовіць з гэтае прычыны Савецкай Уладзе надта вострую ноту.

**Напружаньне грэка-турэцкіх адносінаў**. Грэцкі ўрад адазваў з Ангары свайго прадстаўніка і мае замер перадаць спрэчныя пытаны з Турцыяй на разгляд трыбуналу пры Лізе Нацыяў.

**Мірная конферэнцыя.** З Вашынгтону паведамляюць, што 4 студня апублікованы тэкст звароту ураду Злучаных Штатаў да французкага ураду з прапазыцыяй супольнага выступленьня паважнейшых дзеячоў у мэтах заключэньня трактату, асуджываючага вайну як спосаб развязаньня палітычных пытаньняў. Паводле вестак з Вашынгтону, дзяржаўны сэкратар Келог напісаў пісьмо ў гэтай-жа справе францускаму міністру замежных спраў Брыяну, у якім высьвятляе свой погляд на мірную дэклярацыю ў тым-жа напрамку.

**Навокала Троцкага.** У маскоўскіх партыйных кругох ізноў абгаварываецца судзьба Троцкага. Шмат паважных камуністаў, ніколі неналежачых, да апазыцыі, цьвердзяць, што можа быць небязпечнай поўная ізаляцыя Троцкага і што з гэтага пункту гледжаньня яго ўзноў патрэбна прыняць у партыю.

**Паданьне першых сьпіскаў**. 8-га студня Дзяржаўнай выбарнай камісі-

яй прыняты і зарэгістраваны першыя дзяржаўныя сьпіскі: 1) безпартыйны блёк супрацоўніцтва з Урадам; 2) ППС; 3) Вызваленьне; 4) Бунд і 5) Поалей-Сіон.

**Адкрыцьцё проціва дзяржаўнага загавору ў Літве.** У сувязі за дкрыцьцём процівадзяржаўнага загавору літоўская паліцыя з 1 на 2 студня выканала шэраг арэштаў літоўскіх сацыял-дэмакратаў. Арыштавана каля 120 асоб. У Крыштанах уцёк арыштаваны старшыня камітэту Жыляніс.

## З беларускага жыцьця.

**Выключэньне А. Назарэўскага з ПБДА.**

На паседжаньні партыі „Праваслаўнага Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня, між іншымі, была разгледжана справа аб сябры гэтай партыі А. Назарэўскім, які бяз згоды і ведама партыі прыняў дзейнае учасьцьце у стваранай м. Дыанісім партыі „Праваслаўнае Дэмакратычнае Аб'яднаньне". Заўважыўшы у гэтым чыне А. Назарэўскага нарушэньне партыйнае дысцыпліны, ПБДА на сваім паседжаньні пастанавіла „выключыць А. Назарэўскага" з партыі ПБДА.

Паважаны пан Рэдактар!

Прашу Вас праз Вашу паважаную часопісь асьведчыць беларускаму грамадзянству наступное:

Спачуючы ўселякай дзеяльнасьці змагаючайся за вольное і незалежное становішча царквы у дзяржаве і саборнаму строю у ва ўнутраньнім жыцьці царкві я стаў адным з закладчыкаў партыі Праваслаўнае Беларускае Дэмакратычнае Абьяднаньне.

Варожае становішча, якое заняла гэтая партыя да праваслаўнай іерархіі Аўтокефальной царквы у Польшчы, ня дае мне магчымасьці працаваць як старшыні камітэту па будоўле царквы у Барановічах і ставіць мяне ў немагчымое падвойное палажэньне.

Дзеля гэтага я змушаны выйсьці з партыі ПБДА.

Ня адмаўляючыся ад тых падстаў на якіх будуецца праграмма ПБДА, я спадзяваюся, што змагу працаваць за правядзеньне ў жыцьце гэтых падстаў і астаўшыся ў еднасьці з Аўтокефальнай царквой ў Польшчы і яе вышэйшымі прадстаўнікамі.

З пашанай
б. Сэнатар *Аляксей Назарэўскі.*

**Увага Рэдакцыі:** Гэтае пісьмо па тэхнічным прычынам не зьмясьцілася ў папярэднім нумары. Адказ на яго нашы чытачы ўжо прачыталі ў стацьці „Мітрапчлічы Блёк" у № 1 (7).

## НАША ПОШТА.

Паплаўскаму К.—Сідра, Бурскаму А.—Глыбокое, Шопшэлевічу А.—Вялейка,—Пробные намяры выслалі.

Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культ. у Дабучыне — Часопісь высылаем.

Ст. II—му з Глыбокага. За пісьмо дзякуй. Вы жаліцеся на мяйсцовага ксяндза, што ён прызывае да вуніі і пагражае пеклам. Што-ж тут зрбоіш? Мы забараніць яму ня можам. а лепш вы не хадзіце і ня слухайце.

К. Сьветавастокаву, Юрацішкі. Пробны нумар і праграму ПБДА выслалі.

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.